*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
*ФРАНЦІШАК БАГУШЭВІЧ*



# НАША СЛОВА




Газета выходзіць з сакавіка 1990 года № 46(483) 22 ЛІСТАПАДА 2000 г.

# 80 гадоў Слуцкаму Збройнаму Чыну



*26 лістапада спаўняецца 70 гадоў заснавальніку нацыянальнай беларускай гістарычнай літаратуры Уладзіміру Караткевічу. На яго кнігах вырасла тое пакаленне, якое ў 1991 годзе ўсё-такі дасягнула незалежнасці Беларусі, усталявала адвечныя нацыянальныя сімвалы і якое сёння пластаецца на вуліцах і плошчах, у прэсе і на мітынгах за гэтую незалежнасць і за гэтыя сімвалы.*

Фота з архіву БелТА.

## Першы рэспубліканскі фестываль незалежнай прэсы

17-18 лістапада ў Менску прайшоў Першы Рэспубліканскі фестываль незалежнай прэсы, арганізаваны Беларускай асацыяцыяй журналістаў.

У фестывалі брала афіцыйны ўдзел 43 недзяржаўныя выданні Беларусі, пачынаючы ад "Народнай волі" і "Комсомольской правды в Беларусии" да рэгіянальных і мясцовых газет з розных куткоў краіны. Было прадстаўлена таксама і "Радыё Рацыя!.

Гасцямі фестывалю былі намеснік старшыні Літоўскага саюзу журналістаў Вілюс Каваляўскас, генеральны дырэктар рускага ПЭН-цэнтра Аляксандр Ткачэнка і дарадца старшыні Саюзу журналістаў Расеі Аляксандр Капейка.

Уразіла вялікая колькасць моладзі якая прадстаўляла многія выданні. Як падаецца, журфак не дарэмна штогод "куе журналісцкія кадры", за што была выказана падзяка дэкану факультэта журналістыкі БДУ Васілю Вераб'ёву, які таксама прысутнічаў на фестывалі.

Была арганізаваная выстава незалежнай прэсы, і прэзентацыя газет, якая ішла ў сур'ёзнай і жартоўнай форме, у залежнасці ад настрою.

"Наша слова" прэзентаваў рэдактар газеты Станіслаў Суднік.

Пад час фестывалю адбылося ўручэнне шматлікіх прызоў і падарункаў лепшым газетам і журналістам.

"Наша слова" было ўганаравана прызам Беларускага ПЭН-цэнтру, які ўручыў яго старшыня Карлас Шэрман.

Прадстаўнікі Летувы і Расеі распавядалі пра свае праблемы. Так у Летуве прэса стала настолькі вольная, што зусім знікла канкурэнцыя – і спынілася развіццё. У раёнах засталося па адной высокакласнай газеце, астатнія зніклі.

У Расеі гранды друкаванага слова не могуць дайсці да глыбінкі. Там іх не чытаюць, аддаючы перавагу мясцовым выданням.




Але праблемы Беларусі, дзе знікаюць журналісты, учыняюцца пагромы рэдакцый, ідзе эканамічнае і юрыдычнае ўдушэнне вольнага слова не ідуць ні ў якое параўнанне з праблемамі нашых суседзяў. Так было сказана, быццам беларускія ўлады рыхтуюць канфіскацыю абсталявання друкарні "Мэйджык", што ставіць вялікі пытальнік на існаванні каля 20 менскіх газетаў. Тым не менш Беларуская асацыяцыя журналістаў рук не апускае. Змаганне за вольнае слова працягваецца.



**Сёлетняй восенню католікі Беларусі святкуюць 90-годдзе Менскага Чырвонага касцёла. Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны шчыра віншуе пробашча Уладзіслава Завальнюка і ўсіх вернікаў парафіі Святых Сымона і Алены і жадае ім стойкасці ў вернасці Богу і адданасці Беларусі.**

## Да 70-годдзя Уладзіміра Караткевіча

**Кінатэатр "Змена" запрашае:**

**20-25 лістапада а 14-й гадзіне** мастацкая стужка "Хрыстос прызямліўся ў Гародні", "Беларусьфільм".

**26 лістапада а 15 гадзіне** - кінапраграма, прысвечаная 70-годдзю Уладзіміра Караткевіча, падрыхтаваная разам з ТБМ імя Францішка Скарыны.

**Выступаюць: Алег Трусаў**, старшыня ТБМ; **Кастусь Тарасаў**, гісторык-даследнік; а таксама адбудзецца дэманстрацыя новай дакументальнай стужкі **"Уладзімір Караткевіч. Мсціслаў"** (рэжысёр Ул. Арлоў) і фрагментаў з мастацкай стужкі **"Хрыстос прызямліўся ў Гародні"**.

## Тыдзень Караткевіча на выставе ТБМ

З 20-га лістапада (панядзелак) кніжная выстава ТБМ, што месціцца ў Менску (Румянцава,13) распачала дэманстрацыю кніжных экспанатаў, прысвечаных 70-й гадавіне з дня нараджэння Уладзіміра Караткевіча. Апроч гэтага на выставе можна адшукаць, як новыя беларускія кнігі, так і каля 200 рарытэтных, а таксама новыя СД, відэа – і аўдыёкасеты, выцінанкі, календары, часопісы, значкі і інш. Выставу маецца зрабіць сталадзейнай. Працоўны час: 11.00 - 19.00, апроч выхадных.

### Шаноўнае спадарства

На мінулым тыдні ў аддзяленнях сувязі з' явіўся-такі каталог падпіскі на I квартал 2001 года. Мы знаходзімся ў асноўным каталогу на староннцы 32. Цана на газету ізноў вырасла і складае цяпер 215 рублёў на месяц. Гэты пад'ём выкліканы ў асноўным чарговым павышэннем паштовых тарыфаў, якія для недзяржаўных газет у 4,5 разы большыя, чым для дзяржаўных.

Гэты рост, па ўсім відно, не апошні, таму мы заклікаем нашых прыхільнікаў падпісвацца адразу на квартал, а яшчэ лепш, на паўгода. Падпісны аркуш на паўгода мы змесцім у наступным нумары.

У каталогу на 2001 год для нашай газеты з'явілася графа ведамаснай падпіскі. Цяпер не павінна быць ніякіх перашкодаў для падпіскі на "Наша слова" ўстаноў і прадпрыемстваў. Тут цана за месяц -- 233 рублі, за квартал -- 699 рублёў.

Мы настойліва просім нашых сталым чытачоў, сяброў ТБМ, асабліва кіраўнікоў арганізацый ТБМ актывізаваць падпіску. Асаблівую ўвагу просім звярнуць на студэнцкія калектывы, на першыя курсы, дзе неабходна разам з арганізацыяй падпіскі арганізаваць стварэнне суполак ТБМ.

Будзьце з намі.

Ф. СП - 1

**Міністэрства сувязі Рэспублікі Беларусь**

**АБАНЕМЕНТ** на газету / часопіс **63865** (індэкс выдання)

***НАША СЛОВА***
(назва выдання)

На 2001 год па месяцах:

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| X | X | X | | | | | | | | | |

Куды (паштовы індэкс) (адрас)

Каму (прозвішча, ініцыялы)

**ДАСТАВАЧНАЯ КАРТАЧКА**

| ПВ | месца | літар |
|---|---|---|

на газету / часопіс **63865** (індэкс выдання)

***НАША СЛОВА***
(назва выдання)

| Кошт | падпіскі | 645 руб. | Колькасць камплектаў | 1 |
|---|---|---|---|---|
| | пераадрасоўкі | руб. | | |

На2001 год па месяцах

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| X | X | X | | | | | | | | | |

Куды (паштовы індэкс) (адрас)

Каму (прозвішча,ініцыялы)

# 80 гадоў Слуцкаму Збройнаму Чыну

(Заканчэнне. Пачатак на старонцы 5.)

У наступных баях у ноч на 18 снежня жаўнеры Слуцкай брыгады зноў занялі мястэчка Семежава і навакольныя вёскі. Было ўзята 25 палонных і ў якасці трафеяў 1 кулямёт з набоямі, шмат стрэльбаў, набояў, гранатаў, палявая кухня, транспарт з коньмі. А ў наступную ноч было з боем зноў узята мястэчка Вызна. Пры гэтым чырвоныя войскі панеслі значныя страты. 50 чырвонаармейцаў было забіта і шмат паранена, а таксама захопленыя вайсковыя трафеі. Жаўнеры Слуцкай брыгады прасунуліся на ўсход ад Вызны. Савецкае камандаванне сабрала вялікія сілы, каб перамагчы случчакоў. 19 снежня войскі Чырвонай арміі пачалі агульны наступ, каб ліквідаваць узброенае паўстанне. У гэты ж дзень чырвонымі было адбіта мястэчка Вызна. Паўстанцы пачалі адыходзіць на захад да вёскі Смолічы (у 10 кіламетрах на захад ад Вызны). 19 і 20 снежня яны былі адцесненыя да ракі Морыч. 20 снежня чырвоныя выбілі беларускіх жаўнераў з Семежава.

А ў гэты час па ўзгадненню савецкай і польскай дэлегацый на мірных перамовах ў Рызе, войскам Чырвонай арміі дазвалялася ўвайсці ў нейтральную зону і пераследаваць паўстанцаў нават на польскай тэрыторыі.

Штаб Слуцкай брыгады вымушаны быў перабірацца ў вёску Заастравечча (Клецкі раён) каля ракі Лані, за якой стаялі польскія войскі. Як сведчыць у сваіх мемуарах Эдвард Вайніловіч, польскія войскі нават адступілі ад сваёй дэмаркацыйнай лініі (у 15 кіламетрах на Захад ад дзяржаўнай мяжы), каб толькі даць магчымасць Чырвонай арміі разграміць беларускіх жаўнераў ужо на польскай тэрыторыі.

Рада Случчыны, улічваючы недахоп зброі, боепрыпасаў і харчавання ў падраздзяленнях брыгады, прыняла змеркаванне аб пераходзе войскаў Слуцкай брыгады праз раку Лань. Перад самым пераходам 1-ы Слуцкі полк за ўдзел у баях атрымаў ад Рады палкавы сцяг залацістага колеру з выявай Пагоні. На ім быў надпіс: "Першы Слуцкі полк Беларускай Народнай Рэспублікі".

28 снежня 1920 года асноўныя сілы Слуцкай брыгады перайшлі раку Лань: 1-ы Слуцкі полк, 2-і Грозаўскі полк і штаб брыгады. Жаўнеры і афіцэры былі абяззброеныя і інтэрніраваныя ў раён мястэчка Сіняўка польскімі вайсковымі ўладамі. 31 снежня Лань перайшоў апошні аддзел Слуцкай брыгады. Але са складу брыгады адзін батальён (каля 400 чалавек) на чале са сваімі афіцэрамі застаўся ў нейтральнай зоне для працягу ваенных дзеянняў партызанскага характару асобнымі групамі па 10 чалавек. Гэтыя партызанскія групы, разам з іншымі, працягвалі барацьбу яшчэ доўгі час.

Інтэрнаваныя слуцкія паўстанцы былі пераведзеныя ў лагер у Беластоку, а потым – у Дарагуску і былі вызваленыя толькі ў траўні 1921 г., пасля ратыфікацыі расійска-польскай мірнай дамовы ад 18 сакавіка 1921 г. Частку ж афіцэраў Слуцкай брыгады польскія вайсковыя ўлады перадалі савецкаму боку, і яны былі расстраляныя. Гэта капітан Анастас Анцыповіч, камандзір 1-й Слуцкай брыгады да 3 снежня 1920 г. і капітан Антон Самусевіч, камандзір 1-га батальёну 2-га Грозаўскага палка.

Сярод слуцкіх паўстанцаў было шмат слаўных людзей. Адзін з іх Макар Краўцоў (Макар Мацвеевіч Касцевіч), аўтар гімну "Мы выйдзем шчыльнымі радамі", Іосіф Лапковіч, які разам з іншымі слуцкімі паўстанцамі прыняў чынны ўдзел у патрыятычнай дзейнасці Беларускай Рэвалюцыйнай Арганізацыі ў Заходняй Беларусі, а потым стаўся нацыянальным сакратаром кампартыі Заходняй Беларусі. Абодва загінулі ў турмах БССР.

Сярод слуцкіх змагароў было шмат палітычных дзеячоў, афіцэраў і шарагоўцаў, інтэлігентаў і гараджанаў. Усе яны выступалі за незалежнасць роднай Беларусі.

Слуцкія паўстанцы, не зважаючы на значную лічбавую перавагу бальшавікоў, на здрадніцкую пазіцыю польскіх уладаў, падняліся на барацьбу за незалежнасць Беларускай Народнай Рэспублікі, за самастойнасць сваёй дзяржавы і свайго народу.

Слуцкія паўстанцы за кароткі тэрмін здолелі ўтварыць баявыя адзінкі беларускага нацыянальнага войска, жаўнеры якіх, натхнёныя любоўю да Бацькаўшчыны, здолелі ў неспрыяльных умовах весці цяжкую і напружаную барацьбу супраць больш мацнейшага супраціўніка. Аднак у тых абставінах, якія склаліся ў канцы 1920 года, без якой-небудзь дапамогі звонку, пры варожай па сутнасці пазіцыі Польшчы, лёс паўстання быў прадвырашаны.

У акрэсе гістарычнага лёсу Беларусі пачатку XX стагоддзя Слуцкі збройны чын адыграў значную ролю ў вызваленчай барацьбе беларускага народа. Гэта была праява барацьбы за незалежную Беларускую дзяржаву з легальнай дэмакратычнай уладай.

Слуцкі збройны чын адзначаецца штогод беларускімі патрыятычнымі коламі ў Беларусі і за мяжой, а даты яго пачатку 27 лістапада названа Днём Герояў. У наш час Слуцкі збройны чын з'яўляецца не толькі гераічнай падзеяй у гісторыі беларускага народа, але і сімвалам барацьбы беларусаў за самастойную і незалежную дзяржаву, не звязаную ніякімі дзяржаўнымі дачыненнямі з іншымі дзяржавамі, перш за ўсё з Расіяй.

Жыве Беларусь! Жыве вечна!

*Анатоль Грыцкевіч, прафесар, доктар гістарычных навук, акадэмік Міжнароднай акадэміі навук Еўразіі.*

# Беларуская паэзія: дзень сённяшні, або Незвычайны дыялог за кубачкам кавы

(Заканчэнне. Пачатак на ст. 4.)

**М у з а:** *А што астанія паэты такія нясмелыя, баяцца шчыра выказваць сябе, не рэагуюць востра на падзеі і з'явы паўсядзённай рэчаіснасці? Паэт жа, мабыць, грамадзянінам быць абавязаны. Ці памятаеце някрасаўскае?..*

**К р ы т ы к:** У нас традыцыйна складвалася так, што "паэт быў больш, чым паэт". Аднак сёння наўрад ці народ успрымае сваіх творцаў, як прарокаў, не тыя, відаць, часы. Я б не сказаў, што ўсе паэты Беларусі сядзяць як мышы пад венікам ці ценю свайго баяцца.

Яшчэ гадоў колькі таму, праўда, друкавалася столькі пафасных вершыкаў на адраджэнскую тэму, хоць бяры ты іх ды, як апенькі, касою касі. Сёння штосьці не чуваць тых кан'юнктуршчыкаў ды канфармістаў, бо прызвычаіліся яны пісаць па інерцыі, апяваць чарговую радасць перамен. Асобныя, не выключаю, разгубіліся, складаюць традыцыйна-посныя "вершаняты" (выраз А. Лойкі), якімі запруджваюць сённяшні літаратурны друк. Гэта ім, рыфмаплётам і прыхільнікам прынцыпу "абы ціха было", прысвячае свае радкі Ніл Гілевіч – адрасуе, выказваючы свой дакор і асуджэнне:

*Пакуль з экрана тлуста-густа*
*Плыве хлусня, паклёп і глупства –*
*Ганіце рытмы, рытмагоны!*
*Звaніце ў рыфмы, рыфмазвоны!*

*Пакуль народу робяць пойла,*
*Каб ён хлябаў і спаў спакойна –*
*Рабіце песні, вершаробы!*
*Хлябчыце пепсі, рыфмахлёбы!*

За апошняе пяцігоддзе ў літаратуры нарадзілася паэзія духоўнага супраціву – супрацьстаяння ўціску свабоды і іншых чалавечых правоў, пратэсту супраць занядбання роднай мовы, насаджэння русіфікацыі, нязгоды з усім, што абражае нацыянальную годнасць. Палітычная лірыка ў абарону дэмакратыі, беларускай культуры і духоўнасці заняла прыкметнае месца найперш на старонках газеты "Народная воля". У рубрыцы "Паэт і час" пастаянна друкуюцца вершы нацыянальна-патрыятычнага зместу Ніла Гілевіча, Генадзя Бураўкіна, Алега Лойкі. А таксама на старонках гэтага выдання змешчаны творы надзённага грамадзянска-публіцыстычнага гучання іншых аўтараў: Сяргея Панізніка, Ніны Мацяш, Анатоля Зэкава, Яўгена Гучка, Эдуарда Акуліна, Леаніда Яўменава, Сяргея Чыгрына... Пра існаванне паэзіі духоўнага супраціву красамоўна засведчыў выхад паэтычнай кнігі А. Лойкі "Неўміручасць" (2000). Паэт і старшыня Саюза пісьменнікаў Беларусі Уладзімір Някляеў, які выехаў у Польшчу па змушаных абставінах, у нізцы "Варшаўскія вершы" гавораць пра палітыку так: "Пры ўладзе яшчэ свалачней, чым пры не...".

Наогул, уся публіцыстыка на грамадска значныя тэмы – гэта вынік устурбаванасці беларусаў пра свой сённяшні лёс і будучыню спрадвечных нацыянальных каштоўнасцяў. Сведчаннем таму назвы шматлікіх вершаў чытачоў "Народнай волі" – ад інваліда Другой сусветнай вайны, пенсіянера Феліксa Шкірманкова да вучня сярэдняй школы №4 г. Менска Сашы Лапціка: "Каб прачнуўся беларус", "Жыве Беларусь", "Насталі сумныя часы", "З болем у сэрцы", "Боль", "Краіна ланцугоў", "Мы не рабы", "Сцяг памяці" і інш.

Усё часцей з вуснаў паэтаў чуюцца малітоўныя апеляцыі да Бога з просьбай аб дапамозе і заступніцтве ў лёсе Беларусі. Але разам з тым асноўная лінія эмацыйнага напружання – матывы болю і гневу, любові да Бацькаўшчыны і яе святыняў. Сэрца беларускіх паэтаў не можа не жыць без веры і надзеі на светлы заўтрашні дзень роднага краю.

**М у з а:** *Які наогул тонус сучаснай беларускай паэзіі на мяжы стагоддзяў?*

**К р ы т ы к:** Аптымізму ўсё ж малавата, пераважае іншы пачатак – элегічны, драматычны і трагедыйны. Уплывае на гэта Чарнобыль ды глыбокі крызіс – сацыяльны, эканамічны, нацыянальна-духоўны. Зыход стагоддзя не прынёс паэзіі, на жаль, урачыстых одаў і велічных гімнаў.

**М у з а:** *А што яшчэ такое нязвычнае ды пікантнае ёсць у паэзіі нашых дзён?*

**К р ы т ы к:** Не ведаю, чым бы яшчэ здзівіць шаноўную пані.

Вось друкуе Віктар Шніп "блатныя" вершы – кшталту тых рускамоўных тэкстаў, што ў дваровай кампаніі спяваюць пад гітару. Што ж, хай будзе і такое, як Шніпавы "Балада залатога ланцужка", "Балада прыгажуні" і іншыя "дваровыя" балады ды рамансы.

Ёсць у нас такое дзіва, як Бум-Бам-Літ – суполка, што робіць стаўку на літаратурны эпатаж, перфаманс, сюррэалістычны калаж. Лідэр гэтага авангарднага моладзевага руху – Зміцер Вішнёў, аўтар кніжкі "Штабкавы тамтам". Праўда, многія старэйшыя пісьменнікі ўспрымаюць паводзіны і тэксты бумбамлітаўцаў як "літаратурны маскарад" (А. Масарэнка). А што сярод іх ёсць здольныя і адметныя асобы – сумневу няма. Віктар Жыбуль, напрыклад, упершыню ў беларускай паэзіі стварыў паліндрамічную паэму "Рогі гор" (тэкст яе чытаецца аднолькава злева направа і справа налева). У сваіх творах ён выяўляе досціп, іронію і парадыйна-парадаксальны характар маўлення, як у вершы "Пра Карлсанаў".

На фоне традыцыйна-сузіральнай і апісальнай паэзіі прыдумствы моладзі і сапраўды выглядаюць дзівацтвам. Бумбамлітаўцы ўчыняюць гвалт над формай, прапануюць шмат рознай лухты ў выглядзе нечаканых кампазіцыйных камбінацый, і ўсё гэта бачыцца як выдаткі пераходнага творчага ўзросту. Здаецца, пра пагрозу лёгкага і бяздумнага вершапісання задумваецца адзін з аўтараў "мадэрновай" фармацыі:

*Няўжо мы сябры-шкрабіпёры,*
*Браты-марнатраўцы свядомыя,*
*Патонем у тэкставым моры,*
*Геройскім учынкам натхнёныя?*

**М у з а:** *А хто з самых маладых аўтараў абнадзейвае і дае спадзеўку на творчае разгаранне паэтычнага дару?*

**К р ы т ы к:** Будзем і надалей спадзявацца на маладое духоўна-творчае сілкаванне літаратуры. На старонках друку з'явілася нямала імёнаў дваццацігадовых і крыху маладзейшых аўтараў, у якіх, як падаецца, галоўныя паэтычныя набыткі яшчэ наперадзе. Тым не менш сваімі першымі кніжкамі і публікацыямі на сябе прыкметна звярнулі ўвагу Алесь Пашкевіч і Алесь Дуброўскі, Віктар Слінко і Сяргей Патаранскі, Янка Лайкоў і Арцём Кавалеўскі, Ярына Дашына і Ілона Сцяцко, Марыля Лагодзіч і Наталля Дзівіна...

І яшчэ хацелася б, каб мы памяталі пра адзін важны момант: сапраўдная паэзія – рэч элітарная, а не масавая. У літаратуры застаюцца толькі асобы. Бо чаго, а рознага вершапісання і рыфмаплёцтва сёння хапае, пра што, зрэшты, можа яскрава пасведчыць "Грамафон" – паэтычная старонка газеты "Наша Ніва" і змешчаныя тут шматлікія тэксты. Ды і прафесійныя літаратары далёка не заўсёды на высокім узлёце ствараюць вершы, дэманструюць інфантыльнасць паэтычнага мыслення:

*Халады. Каля*
*Самага ложка стаўлю*
*Абагравальнік.*

Калі гэта Паэзія, то, даруйце, што такое творчы сверб ці творчыя патугі?

**М у з а:** *А што можна сказаць пра майго паэта як творцу? Я ж натхняю яго як магу...*

**К р ы т ы к:** Гадоў за дзесяць таму ён пісаў неблагія вершы. Цяпер прырастае да крэсла і вучыць пісаць іншых. А ці сумяшчальныя рэчы – кіраўнічае крэсла і высокая паэзія? Гэты паэт марыць, што хутка атрымае Дзяржаўную прэмію, прыдбае афіцыйнае прызнанне. Вось яму і не да музы, душэўнага трымцення і натхнёнага паэтычнага гарэння.

**М у з а:** *Нядаўна я прачытала спавядальна-ўсхваляльныя радкі адной беларускай паэткі:*

***"О, як хараша ноччу не спаць // І прыгожыя вершы пісаць!"*** *Не магла не пазайздросціць ёй і яе музе-апякунцы...*





# Выдаецца толькі па-беларуску

Лідскі Летапісец

Народ, які не ведае сваёй мінулага, не мае будучыні

Краязнаўчы, гістарычна-літаратурны часопіс

№ 3 (11) ЛІПЕНЬ - ВЕРАСЕНЬ 2000 г.

У НУМАРЫ:



Былое паселішча

Г. Даўгашэй, в. Ельны Воранаўскага раёна, Гарадзенскай вобласці.

У Лідзе выйшаў чарговы нумар краязнаўчага, гістарычна-літаратурнага часопіса часопіса "Лідскі летапісец". Гэта ўжо 11-ты нумар адзінага рэгіянальнага часопіса такога кшталту ў Беларусі.

У часопісе: кроніка Ліды, Лідскі гістарычны каляндар, артыкулы, прысвечаныя ўдзелу лідскай харугвы ў Грунвальдскай бітве, да 120 годдзя з дня нараджэння Вацлава Іваноўскага, пра дзейнасць Мацея Догеля, пра грамадзянскую вайну на Лідчыне ў 1944-1954 гадах, пра элементы готыкі ў архітэктуры Лідчыны, пераклад нататкаў Мірона Браніслава Нарбута, вершы на гістарычную тэматыку У. Руля і Г. Даўгашэй. У часопісе надрукаваны самы старажытны з вядомых беларускіх гімнаў "Багародзіца". Па просьбе шматлікіх чытачоў мы друкуем гэты гімн у "Нашым слове".

Ба - га - ро - дзі - ца, Дзя - ві - ца,
Бо-гам слаў- ле - на Ма - ры - я!
У твай - го Сы - на, Гас - па - дзі - на,
Ма - ці ве - ліч - па, Ма - ры - я,
Нам лас-кі пра-сі спа - слаць. Кы-ры-е э - лей - сон
Ты дзе - ля Хрыс-ці - це - ля Бо - жы - ча,
па -чуй га - ла - сы, Ча - ла - ве - чы дум - кі споўнь
І ма-літ - ву на - шу к Та-бе, А даць рач нам,
Мо - лім Ця - бе: Ва ўсім све-це збож-ны па - быт,
Па жы-во-це веч-пы ў ра - і быт. Кы-ры-е э - лей - сон.

## Багародзіца

*Мелодыя 13-га стагоддзя. Сучасная апрацоўка тэксту Яўгена Бартніцкага (Санкт-Пецярбург).*

**Багародзіца,**
**Дзявіца,**
**Богам слаўлена Марыя!**
**У твайго сына,**
**Гаспадзіна,**
**Маці велічна, Марыя,**
**Нам ласкі прасі спаслаць.**

**Кырые Элейсон.**

**Ты дзеля**
**Хрысціцеля,**
**Божыча пачуй галасы,**
**Чалавечы думкі споўнь**
**І малітву нашу к Табе**
**А даць рач нам,**
**Молім Цябе:**
**Ва ўсім свеце збожны пабыт,**
**Па жывоце вечны ў раі быт.**

**Кырые Элейсон.**

## На "Лідскі летапісец" можна падпісацца

На часопіс "Лідскі летапісец" можна падпісацца ў кожным аддзяленні сувязі Гарадзенскай вобласці.

У каталогу падпіскі на 2001 год "Лідскі летапісец" знайходзіцца на старонцы 42, у раздзеле "Абласныя газеты". Часопіс выходзіць адзін раз на квартал. Кошт падпіскі для індывідуальных падпісчыкаў 231 рубель на квартал, кошт ведамаснай падпіскі 2,45 рублёў на квартал. Рэдакцыя рэкамендуе падпісвацца на паўгода, таму што, хоць цэны на сам часопіс падымаць ніхто не збіраецца, але паштовыя тарыфы могуць вырасці ў любы момант.

У каталогу пазначана, што падпіска афармляецца толькі на тэрыторыі Гарадзенскай вобласці. На тэрыторыі астатняй Беларусі можна падпісацца, даплаціўшы за дастаўку.

У 2001 годзе "Лідскі летапісец" прадоўжыць друк матэрыялаў з гісторыі Ліды, Лідскага павету і Лідскага раёну. Разам з тым часопіс гатоў некалькі пашырыць тэматыку і геаграфію і пры наяўнасці цікавых аўтэнтычных матэрыялаў выйсці за межы рэгіёну.

Рэдакцыя запрашае да супрацоўніцтва студэнтаў і аспірантаў гістарычных спецыяльнасцяў, якія працуюць над тэматыкай Лідскага рэгіёну. Адрас рэдакцыі: 231300, Ліда-2, п/с 7.

Ф. СП - 1

Міністэрства сувязі Рэспублікі Беларусь

**АБАНЕМЕНТ** на газету / часопіс **00257** (індэкс выдання)

*Лідскі летапісец* (назва выдання)

На 2001 год па месяцах:

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| X | X | X | | | | | | | | | |

Куды ________ (паштовы індэкс) ________ (адрас)

Каму ________ (прозвішча, ініцыялы)

**ДАСТАВАЧНАЯ КАРТАЧКА**

| ПВ | месца | літар |
|---|---|---|

на газету / часопіс **00257** (індэкс выдання)

*Лідскі летапісец* (назва выдання)

| Кошт | падпіскі | 231 | руб. | Колькасць камплектаў | 1 |
|---|---|---|---|---|---|
| | пераадрасоўкі | | руб. | | |

На2001 год па месяцах

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| X | X | X | | | | | | | | | |

Куды ________ (паштовы індэкс) ________ (адрас)

Каму ________ (прозвішча, ініцыялы)

## Зарэгістраваны часопіс "Ад лідскіх муроў"

Ад лідскіх муроў № 4 2000 г. г. Ліда

11 лістапада 2000 года Дзяржаўны камітэт Рэспублікі Беларусь па друку выдаў Пасведчанне № 1542 аб рэгістрацыі літаратурна-мастацкага часопіса "Ад лідскіх муроў". Заснавальнікам часопіса выступіў Станіслаў Суднік.

Пасля рэгістрацыі часопіс мусіць некалькі змяніць арыентацыю. З чыста літаратурнага часопіс становіцца ў значнай ступені культуралагічным, частка плошчы будзе выдзяляцца для матэрыялаў, якія будуць адлюстроўваць культурнае жыццё Ліды і Лідчыны. У гэтым плане прадугледжваецца цеснае супрацоўніцтва з аддзеламі культуры гарвыканкаму і райвыканкаму. Як і "Лідскі летапісец", часопіс будзе цалкам беларускамоўным.

Дзяржаўны камітэт Рэспублікі Беларусь па друку

**ПАСВЕДЧАННЕ**
**аб рэгістрацыі**
**перыядычнага выдання**

№1542

Назва «Ад лідскіх муроў»

Від перыядычнага выдання часопіс

Мова (ы) руская, беларуская

Месцазнаходжанне перыядычнага выдання вул. Заранчна, 5-17, 231300, г. Мінск

Тэрыторыя распаўсюджвання г. Ліда, Лідскі раён, раёны Гродзенскай вобласці

Заснавальнік Суднік Станіслаў Вацлававіч

